наша свабода

№18 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

25 КРАСАВІКА 2000 года АЎТОРАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




# Уволили министра внутренних дел

Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ

**Сообщение об увольнении министра внутренних дел Беларуси генерал-лейтенанта Юрия Сивакова было неожиданным. Вечером 21 апреля по белорусскому ТВ было зачитано официальное сообщение администрации президента Республики Беларусь о том, что по состоянию здоровья генерал Ю. Сиваков ушел в отставку. На следующий день дополнили, что отставку принял президент и поблагодарил Ю. Сивакова за работу. А еще утром, в пятницу, присутствовавшего на собрании спортивного общества «Динамо» министра в полном здравии вновь переизбрали на пост председателя. По традиции, спортсменов «Динамо» всегда возглавляет действующий министр внутренних дел.**

Слухи о возможных отставках и перемещениях с места на место чиновников разного ранга появляются периодически. По разным причинам. В наступившем году такого рода слухи появились и в отношении министра внутренних дел Юрия Сивакова. Информированные источники утверждают, что глава государства был намерен произвести реструктуризацию и кадровые перестановки в силовых структурах. По одной из версий, генералу прочили пост вице-премьера, курирующего силовые ведомства. По другой, будучи озабоченным популярностью генерала в боеспособных Внутренних войсках, глава государства намеревался перевести Ю. Сивакова на должность министра обороны, в подчинении которого находится нищая армия. Но ни одного, ни другого так и не произошло. Зато, по неофициальной информации, у главы МВД появились проблемы с могущественным куратором силовых структур — государственным секретарем Совета безопасности Виктором Шейманом. Кстати, согласно несбывшимся планам реструктуризации, госсекретарю прочили пост главы администрации президента.

Следует вспомнить, что известность Ю. Сиваков получил, когда в должности начальника отдела аппарата Совета безопасности он удачно для властей провел расследование, связанное с гибелью американских воздухоплавателей в небе Беларуси. Он также, с подачи В.Шеймана, стажировался в Монтерее (США). Придя в звании полковника запаса на должность командующего Внутренними войсками, Ю. Сиваков за пару лет дорос до звания генерал-лейтенанта и министра внутренних дел, готового выполнить, по словам сослуживцев, любой приказ. Нелишним будет вспомнить, что ему удалось создать даже собственную разведку и контрразведку. Известность проведением разнообразных акций получило и элитное спецподразделение «Алмаз», которое, видимо, после ухода Ю. Сивакова будет подчинено уже не главе МВД.

Некоторые наблюдатели склонны связывать конец карьеры Ю. Сивакова — поклонника маршала Жукова, с событиями, происшедшими в Минске 25 марта, когда МВД демонстративно допустило массовые нарушения прав человека и задержания журналистов при проведении акции оппозиции. Как известно, президент в тот день в стране отсутствовал. Выступивший по ТВ сразу после событий министр внутренних дел заявил, что выполнял прямое распоряжение главы государства. Эти слова больше государственные СМИ не тиражировали. Затем, перед группой российских тележурналистов, которых также 25 марта задержали, Ю. Сиваков как бы извинился. Может быть, после нового запрета минских властей на проведение 26 апреля манифестации «Чарнобыльскі Шлях» у министра появилось чувство, что второго извинения не будет? Ведь внедряя в верненных ему частях христианские заповеди, путем строительства там храмов, уже экс-министр, каким-то образом мог противиться возможному повторению насилия в страстную, предпасхальную неделю.

Согласно тому же сообщению об увольнении Ю. Сивакова, исполнять обязанности министра внутренних дел поручено начальнику милиции — 1-му заместителю министра Михаилу Удовикову. В Минске он появился из Бреста, где работал заместителем начальника Брестского УВД и был избран депутатом Верховного Совета 12-го созыва. А затем работал начальником Гомельского УВД. Кроме М. Удовикова, кандидатом на должность министра называют и главу минской милиции Б.Тарлецкого. Надо полагать, по итогам «Чарнобыльская Шляху» и будет принято решение о новом главе МВД. ■

*Працяг тэмы на стар.3*




# «Захад сочыць за Лукашэнкам»

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

**Напрыканцы мінулага тыдня Мінск наведала амерыканская дэлегацыя ў складзе двух чалавек, што прадстаўлялі Сенат ЗША.**

Іхняй асноўнай місіяй быў збор інфармацыі пра Беларусь.

З 19 па 22 красавіка Марк Тысен, прэс-сакратар сенатара Джэсі Хелмса, старшыні камітэта Сената па міжнародных справах, і супрацоўнік апарата таго ж камітэта Ян Бжэзінскі (дарэчы, сын «таго самага» Збігнева Бжэзінскага, аднаго з найбольш вядомых спецыялістаў у галіне геапалітыкі) сустракаліся з прадстаўнікамі афіцыйных уладаў і беларускай апазіцыяй.

Па словах Марка Тысена, Кангрэс ЗША цяпер вельмі заклапочаны падзеямі, што адбываюцца ў нашай краіне, і таму Джэсі Хелмс накіраваў іх сюды, каб прывезці як мага больш інфармацыі. «Падзеі, якія выклікалі заклапочанасць сенатара Хелмса, – гэта перш за ўсё падаўленне нядаўніх мірных шэсцяў, знікненне выбітных прадстаўнікоў беларускай апазіцыі – Ю.Захаранкі, В.Ганчара, – што адбываліся ў гэткім «лацінаамерыканскім стылі», а таксама затрыманні і турэмныя зняволенні некаторых найбольш вядомых беларускіх палітыкаў», — заявіў М.Тысен.

Галоўная высвова, да якой прыйшлі амерыканскія «эмісары» пасля трох дзён вельмі інтэнсіўных сустрэчаў, – гэта тое, што Беларусь рызыкуе ў бліжэйшы час стаць своеасаблівай Кубай пасярэдзіне Еўропы. Як вядома, Куба сама сябе называе «востравам Свабоды», але з-за жорсткага рэжыму Фідэля Кастра знаходзіцца ў блакадзе.

«Лукашэнка вельмі пасняхова робіць з сябе карыкатуру на Фідэля Кастра, – заўважылі амерыканскія госці. – Але яму, канешне, не ўдасца пратрымацца ля ўлады сорак гадоў». ▶

*Заканчэнне на стар.3*

## ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

■ **Травень – месяц прэзідэнцкіх візітаў.** Як паведаміў прэс-сакратар МЗС Беларусі Мікалай Барысевіч, 22 траўня чакаецца прыезд у Мінск прэзідэнта Казахстана Нурсултана Назарбаева, а 26 траўня – прэзідэнта Украіны Леаніда Кучмы. Абодва лідэры правядуць у Беларусі па два дні.

■ **Выбары парламента Саюза Беларусі і Расіі адбудуцца напачатку 2001 года.** Пра гэта заявіў старшыня расійскага Цэнтрвыбаркама Аляксандр Вешнякоў у інтэрв'ю газеце «Сегодня». Ён адзначыў, што беларускі бок цісне на Расію ініцыятывай болей хуткага правядзення выбараў, напрыклад, у кастрычніку 2000-га.

■ **З 10 траўня шахцёры Украіны адновяць акцыі пратэсту.** Пра гэта паведаміў незалежны прафсаюз гарнякоў. Прычына забастовак – рост запазычанасці па заробках, пагаршэнне плацяжоў за ўжо адгружаны вугаль, нявырашаныя праблемы аховы працы. Шахцёры маюць намер прадпрыняць новыя «пешыя падарожжы» ў Кіеў.

■ **Расія на парадак адстае ад ЗША ў прадукцыйнасці ядзерных камп'ютэрных тэхналогіяў.** Пра гэта паведаміў у прамым эфіры радыёстанцыі «Эхо Москвы» кіраўнік Дэпартамента распрацоўкі і выпрабаванняў ядзерных боепрыпасаў Мінатама Расіі Мікалай Валошын.

■ **Учора ўлады Ірана арыштавалі двух журналістаў і абвясцілі пра закрыццё трох рэфарматарскіх газетаў.** Арыштаваныя галоўны рэдактар зачыненай газеты «Нішат» і супрацоўнік таксама забароненага выдання «Фатах». Абодва журналісты абвінавачваюцца ў «шкодзе ісламу і краіне». На сённяшні дзень колькасць зачыненых рэфарматарскіх газетаў у Іране дасягнула 12. На мінулым тыдні духоўны лідэр Ірана аятала Алі Хамейні заявіў, што некаторыя сродкі масавай інфармацыі краіны ператвараліся ў замежных агентаў, якія намагаюцца развальць ісламскую дзяржаву. Цікава, што прэзідэнт Ірана Хатамі раней сам працаваў журналістам. Свабода прэсы была адным з галоўных пунктаў ягонай перадвыбарчай кампаніі. Інфармацыйныя агенцтвы падкрэсліваюць, што менавіта пазіцыя прэсы шмат паспрыяла перамозе рэфарматараў на парламенцкіх выбарах у Іране ў лютым гэтага года.

## НАДВОР'Е




## Курс наяўнага долара на «чорным рынку»

950

# Суд — як рэха «Маршу Свабоды»

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**



Фота Ул.ШЛАПАКА

Учора ў Мінскім гарадскім судзе распачаўся працэс па справе старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) Міколы Статкевіча і дэпутата Вярхоўнага Савета 13-га склікання, вядомага праваабаронца Валерыя Шчукіна. Іх абвінавачваюць у «арганізацыі альбо актыўным удзеле ў дзеяннях, груба парушаючых грамадскі парадак» (артыкул $186^3$ Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь) падчас масавай акцыі «Марш Свабоды» 17 кастрычніка 1999 года. Тады, нагадаем, дэманстранты, запёртыя ў лавушку амапам і спецназам, вымушаныя былі бараніць свае правы таксама пры дапамозе камянёў і тратуарнай пліткі. У тым, што людзей да такога рашэння «прывялі» Шчукін і Статкевіч, падсудных і абвінавачваюць. А згодна з абвінавачваннем, якое палітыкі, зразумела, не прызнаюць, яны могуць атрымаць да трох гадоў пазбаўлення волі. На Міколе Статкевічы, да таго ж, вісіць абвінавачванне па аналагічным артыкуле за правядзенне акцыі 27 ліпеня 1999 года ў дзень Незалежнасці Беларусі.

На першым паседжанні адвакатамі Таццянай Станкевіч і Таццянай Вардомскай былі дазаяўленыя на працэс грамадскія абаронцы Барыс Зводскі ад Беларускага Хельсінкскага камітэта і Уладзімір Нісцюк ад БСДП (НГ). Нісцюк, дарэчы, з'яўляецца дэпутатам Вярхоўнага Савета 13-га склікання.

Не абышлося і без канфузаў. Пракурор, які быў прызначаны весці працэс, раптоўна захварэў, і тэрмінова спатрэбілася шукаць іншага. Праўда, выказваліся здагадкі, што хвароба пракурора № 1 – простае нежаданне ўдзельнічаць у яўна палітычным працэсе. Так ці інакш, але новым пракурорам стаў Валеры Пак.

Тым часам Мікола Статкевіч заявіў хадайніцтва аб тым, што ён жадае, каб на Беларусі суд ішоў на беларускай мове. Суддзя Ігар Кот хадайніцтва адхіліў, але тады Статкевіч устаў і сказаў, што калі хвалюецца, то не разумее рускай мовы і, у прыватнасці, абсалютна не разумее, што ж зараз гаворыць суддзя. Таму нічога не заставалася рабіць акрамя таго, як аб'явіць у працэсе перапынак і папрасіць сакратарку тэрмінова знайсці перакладчыка.

Усяго судом заяўлены допыт каля дзесятка сведак, абодвух падсудных, пацярпелых.

У першы дзень судовы зал наведалі пасол ЗША на Беларусі Дэніэл Спекхард, аташэ амбасады Францыі Бернард Фасье. Прысутнічаў таксама экс-прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір, разгляд справы якога ідзе ў гэтым жа судзе і цяпер будзе праходзіць паралельна са справай Шчукіна і Статкевіча.

Сёння працягваецца разгляд гэтай справы. ■

# Болезнь бедного общества

**Вероника ЧЕРКАСОВА**

Туберкулез — болезнь, напрямую зависящая от социально-экономического состояния общества, наличия в нем большого количества мигрантов, бомжей, хронических алкоголиков и людей, не получающих полноценного питания. Сегодня в Беларуси на учете стоит более 20 тысяч больных. В 1999 году отмечен рост смертности от туберкулеза, поскольку появились остро прогрессирующие и устойчивые к лекарствам формы заболевания. Примерно у 15% всех впервые выявленных больных имеется множественная лекарственная устойчивость к основным противотуберкулезным препаратам, а это значит, что им всем надо искать резервные формы лечения, которые и стоят гораздо дороже. При этом практически все препараты, которые сегодня используются во фтизиатрии, закупаются за пределами республики, и лишь один рефомпицин (и то не в полной мере) выпускается в Беларуси.

Медики говорят, что по итогам прошлого года можно говорить о том, что принятые меры приостановили рост этого заболевания в Беларуси. Тем не менее, в ИТУ страны ситуация остается угрожающей. Заболеваемость туберкулезом в учреждениях Комитета по исполнению наказаний (КИН) в этом году превышает республиканский уровень в 26 раз. За последние пять лет в учреждениях Комитета по исполнению наказаний заболеваемость туберкулезом увеличилась на 217,7%. В системе КИН были колонии, где заболеваемость превышала республиканскую в 50 и даже в 100 раз. И не удивительно, поскольку колонии в Беларуси переполнены более, чем в два раза, и если при тамошней скученности туберкулезом заболевает один человек, он заражает всех вокругю. Еще одна проблема — недостаточное финансирование. Из-за того, что колонии уже давно утратили свою самоокупаемость, производства в большинстве из них остановлены, Комитет по исполнению наказаний с большим трудом обеспечивает нормы питания и его сбалансированность.

Около 30% всех содержащихся в белорусских ИТУ больных страдают резистентной формой туберкулеза, а между тем, если на лечение больного туберкулезом обычной формы необходимо примерно USD 2 тыс., то для лечения больного с резистентной формой — около USD 20 тыс. Излишне говорить, что таких денег у Комитета по исполнению наказаний нет.

Сегодня туберкулез в колониях, как и среди свободного населения республики, имеет тенденцию к омоложению. Врачи отмечают рост туберкулеза в детских колониях, а также рост туберкулеза в колониях с преимущественно молодежным составом. Согласно обследованию, проведенному в туберкулезной больнице КИН, где проходят лечение все осужденные с активным туберкулезом, если в 1998 году лица от 30 до 45 лет составляли 45%, то в 1999 году они составляли уже 58%. Врачи сталкиваются со случаями, когда всего через два месяца после флюорографии, давшей нормальный результат, у заключенного фиксируется распад легких и тяжелая форма туберкулеза.

Из-за того, что сейчас туберкулез протекает необыкновенно быстро, в исправительно-трудовых учреждениях флюорографическое обследование проводится два раза в год. Но здесь снова возникает финансовая проблема, поскольку флюорографы, работающие в ИТУ, были закуплены очень давно и уже по нескольку раз выработали свой ресурс. Однако, минимальная стоимость флюорографов, представленных на проходившей недавно в Минске выставке медтехники, составляла USD 80 тыс. — цифра фантастическая для учреждений пенитенциарной системы Беларуси. А флюорографы между тем нужны в каждую колонию и в каждый следственный изолятор...

Впрочем, в обновлении нуждается и другое медицинское оборудование колоний. Особую тревогу у медиков вызывает то, что дезинфекционное оборудование в колониях выработало по два — два с половиной срока, а без дезинфекции белья и постельных принадлежностей говорить о профилактике туберкулеза не имеет смысла. ■

**ФОТАФАКТ**



Фота Ул.ШЛАПАКА

Красавіцкі суботнік. Мінск, ля помніка героям коласаўскіх твораў

# Актыўна растуць толькі цэны

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

Паводле звестак міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі, за першыя два тыдні красавіка рост спажывецкіх цэнаў у краіне склаў 3,6 працэнта.

З пачатку 2000 года спажывецкія цэны ў Беларусі выраслі на 36,6 працэнта. ■

# «Чарнобыльскі Шлях-2000». Што будзе?

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

**Нягледзячы на рашэнне Мінгарвыканкама ад 20 красавіка аб забароне правядзення шэсця «Чарнобыльскі Шлях-2000», арганізатары акцыі заяўляюць, што рашэнне незаконнае і не задавальняе нікога. Яны намераныя правесці акцыю дастойна па раней запланаваным сцэнары «шэсце + мітынг». Рашэнне ж уладаў, якое падпісаў намеснік старшыні Мінгарвыканкама Віктар Чыкін, магчыма, будзе абскарджанае ў судзе.**

«Гарадскія ўлады ў чарговы раз парушылі закон, па якім яны не маюць права змяняць фармат заяўленага мерапрыемства. Яны таксама пайшлі на парушэнне Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і Канстытуцыі ўласнай краіны, якія даюць усім нам права на свабоду сходаў». Аб гэтым адразу пасля вынясення рашэння заявілі падпісанты заяўкі. На нараду, дзе прысутнічала каля шасцідзесяці заяўнікаў «Чарнобыльскага Шляху-2000», пайшло не болей за гадзіну часу! Без выслухоўвання аргументаў і довадаў шэсце было забароненае.

Улічваючы, якая ўвага, нададзеная Шляху-2000, які з'яўляецца адной з акцыяў «Вясны-2000», улічваючы, што ў Мінску ўжо праведзеная шырокая рэкламовая кампанія па гэтай акцыі, рашэнне ўладаў становіцца проста незразумелым і абсурдным. Патлумачыць яго можна толькі выкананнем загаду зверху.

На думку некаторых заяўнікаў, аднак, улады ўсё ж дазволяць і шэсце, але пазней. А сённяшняя забарона звязаная з спробай абмежаваць распаўсюджванне інфармацыі аб акцыі і такім чынам паспрабаваць сарваць традыцыйную штогадовую акцыю беларускай апазіцыі.

Аб гэтым было заяўлена на прэс-канферэнцыі, якая адбылася ва Управе БНФ. Удзельнікі яе, сябры кіраўніцтва трох буйнейшых беларускіх палітычных партыяў і старшыня аргкамітэта па правядзенні акцыі Іван Нікітчанка ў адзін голас заявілі, што збор людзей у 18:00 26 красавіка на плошчы Якуба Коласа – адбудзецца. «Пытанне толькі ў тым, ці наступіць Лукашэнка на адны і тыя ж граблі і ці стане для Лукашэнкі прынцып «паўтарэнне – маці вучэння» прыярытэтным 26 красавіка», – заявіў на прэс-канферэнцыі старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька, праектуючы свае словы на падзеі 25 сакавіка. Таксама журналістам было паведамлена, што на акцыю прыедуць больш за дзесяць прадстаўнікоў парламентаў краінаў Еўропы, і ў прыватнасці Чэхіі, каля ста сябраў гуманітарных місіяў розных краінаў, і ўпершыню журналісты першага нямецкага тэлевізійнага канала.

Як вядома, 26 красавіка Лукашэнка зноў не будзе ў Мінску, што, зыходзячы з папярэдніх гісторыяў, нічога добрага не нясе, але ж пасля падзеяў «Дня Волі-2000» і міністр унутраных справаў, і Лукашэнка клятвенна абяцалі, што падобнага больш ніколі не паўторыцца. Ці так гэта, пабачым ужо заўтра. Але ў праекцыі на заўтрашнія падзеі цікавымі прадстаўляюцца словы кіраўніка аб'яднанай дружыны апазіцыі, намесніка старшыні БНФ Віктара Івашкевіча: «Мы зрабілі адпаведныя высновы з падзеяў 25 сакавіка. Цяпер мы прымем прэвентыўныя меры і не будзем больш гэткімі хлопчыкамі для біцця».

Напрыканцы, калі арганізатарам акцыі задалі пытанне, што яны ўсё ж такі будуць рабіць, калі шэсце так і не дазволяць, як гэта планеуцца, то прагучала знаёмая цытата з Кандрата Крапівы «аслімі вушамі сонца не закрыеш!», а шэсце будзе ў любым выпадку. Гэта мы вам гарантуем. ■

# Фінансавыя халады на Лядовым палацы

Будаўнікі 33-га ўпраўлення будтрэста №8 Брэста, якія ўзводзяць у абласным цэнтры Лядовы палац, незадаволеныя аплатай сваёй працы. 21 красавіка на галоўнай будаўнічай пляцоўцы Брэста прайшоў стыхійны мітынг - будаўнікі патрабавалі своечасовай выплаты заробатнай платы. Паводле словаў рабочых, хранічныя затрымкі з выплатай зарплаты пачаліся яшчэ летась у лістападзе; сёлета перанесены - бліжэй да канца месяца — дзень выдачы зарплаты; не выплачваецца аванс; рэальная зарплата працягвае зніжацца. Паводле апошняй інфармацыі, Лядовы палац у Брэсце павінен быць здадзены ў эксплуатацыю да сярэдзіны чэрвеня 2000 года. ■

# Год па Арнольдзе Пячэрскім

**Аляксей СТАЎСКІ**

Год назад трагічна загінуў старшыня рэспубліканскага прафсаюза «Садружнасць» Арнольд Пячэрскі. Мікрааўтобус «Мерседэс», які вёў кіроўца Пячэрскага, разбіўся на шашы непадалёку ад мястэчка Крупкі. За час следства ўзнікала шмат версіяў наконт прычыны гэтага здарэння. Безумоўны той факт, што пад кіраўніцтвам Пячэрскага «Садружнасць» стала вельмі ўплывовым прафсаюзам, і гэта магло каму-небудзь перашкаджаць.

Выявілася некалькі дзіўных фактаў. Так, экспертыза знайшла ў крыві Пячэрскага алкаголь, хоць ён ужо даволі даўно наогул не піў нічога спіртнога, знаходзячыся ў нейкім рэлігійным супольстве, якое выступала супраць ужывання алкаголю. Кіроўца, суд над якім так нічым і не скончыўся, не атрымаў ніводнага(!) пашкоджання, а падчас следства яму вярнулі аўтамабіль, які трапіў у аварыю і які з'яўляўся галоўным доказам. А яшчэ праз тыдзень кіроўца раптоўна гэты мікрааўтобус прадаў. Зрэшты, усё гэта версіі ды здагадкі. Але ўжо год Арнольда Пячэрскага сярод нас няма. ■

# Новая беларуская мара, або ліверная свіння

Канстанцін СКУРАТОВІЧ

**Маразм дасягнуў у нашым грамадстве амаль касмічных памераў. Ён праяўляецца паўсюль: калі шукаюць ворагаў, калі ўхваляюць патрыётаў, калі клапоцяцца аб асобах адметных.**

Прыкладам, заўжды ў нас шануюць ветэранаў, асабліва з надыходам траўня. Робіцца гэта па меры чыноўнага разумення аб дастатковым ды неабходным, аб густоўным ды маральна вытрыманым. Памятаю, у 1980 годзе – было дазволена ветэранам купляць у крамах дэфіцытныя масла і вэнджаную каўбасу. Заўважым, што гэта быў год, калі ў краіне павінен быў адбыцца поўны камунізм з уласцівым яму бясконцым патокам матэрыяльных каштоўнасцяў для ўсіх. Але ў выніку ад абяцанняў засталіся нейкія там дробязі, якіх хапіла толькі на харчовыя наборы былым ваярам.

А мо гэта на самой справе і быў поўны камунізм. Тады рынкавы сацыялізм, як сведчыць аб гэтым Інэса Багдэвіч ва «ўрадавай» газеце «Рэспубліка» за 19 красавіка ў артыкуле «Субпрадукты са святочнай вітрыны», у нас таксама поўны. Прынамсі, у Калінкавічах, дзе аглядальнік «Р» зрабіў агляд перадсвяточнага гандлю ў краме «Ветэран». Пра тое, што там убачыла спадарыня Багдэвіч, не было ніякай патрэбы пісаць у газеце. Бо калі ў продажы маюцца танныя «пячонка, сэрца, вараная каўбаса другога гатунку ды яйкі», то касавы апарат абавязкова будзе «трашчэць», а з маючых права набываць усе гэтыя «вантробы» ветэранаў ды ліквідатараў абавязкова створацца чэргі.

У якой (назавіце?) краіне ўрадавая газета пісала б пра такі вось плён урадавай працы? Няма такіх. Але аглядальніка «Р» гэта не засмучае. Ёй патрэбная глыбіня пранікнення ў прадмет, да самага, як кажуць, ліверу. І яна дасягае мэты: лівер ёсць, але яго мала. На гэта, у цэлым ухваляючы дзейнасць райвыканкама, журналісту скардзіцца старшыня камісіі па гандлі Калінкавіцкага савета ветэранаў Барыс Брэгман. Маўляў, хацелася б, каб заўжды былі супавыя наборы (хто не ведае, што гэта такое?), тая ж пячонка, ліверная каўбаса, свініна і ялавічына таннейшыя, чым у іншых крамах.

Вось як няшмат, аказваецца, патрэбна нашым ветэранам. Яны, зразумела, змучаныя за сваё шчаслівае савецкае жыццё, не разумеюць абсурднасці сітуацыі. Але гэтага на сваім доўгім «шляху да ліверу» не адчувае і журналіст. *Наступны яе этап* – чыноўнік, загадчыца аддзела гандлю райвыканкама. Яна таксама і зусім сур'ёзна распавядае, што прычына ўсяго ў недахопе сыравіны на мясакамбінаце, а таксама ў тым, што ёсць дзіцячыя садкі (памятаеце, усё лепшае дзецям?!), медычныя ўстановы (як жа хворых пакінуць без ліверу?). Выходзіць (так выцякае з напісанага), што вінаватыя ва ўсім дзеці ды хворыя, якія аб'ядаюць ветэранаў.

Кожнаму зразумела, што калі на ўсіх не хапае, то так яно і ёсць: нехта некага аб'ядае. Але гэта незразумелае для аглядальніка «Р». Таму яна робіць уздым «ад канкрэтнага к абстрактнаму», ідзе да міністра гандлю Пятра Казлова. І чуе, што ва ўсім вінаватыя свінні, бо, як спецыяльна тлумачыць той, выхад ліверу з тушы складае ўсяго 6 працэнтаў. Адчуваеце, у чым яна, чарговая беларуская мара?

Ёсць і іншая заўвага, што тычыцца ўласна газетнага боку. Вось каб «Р» напісала, што нейкі там ветэран на сваю пенсію купіў сабе «лінкольн», гэта была б сенсацыя. А тое, што з голаду людзі сабак хоць і не кусаюць, але ўжо ядуць, то якая ж тут сенсацыя? Звычайнае жыццё.

Сенсацыяй «ліварнае пытанне» было напачатку стагоддзя, калі таго самага ліверу было навалам. Прыкладам, прачытаўшы ў газеце «Русское слово» пра тое, што пры маскоўскіх бойнях адкрылі «фрейбанк» – «свабодныя крамы» для продажу рабочым таннага, абясшкоджанага, умоўна-прыгоднага мяса, Ленін аж зайшоўся ад публіцыстычнага натхнення. Гады, абясшкоджанае мяса – гэта якраз для народа?! Вось у які жудасны час жывем, да чаго давялі краіну!

Дарэчы, справа ішла не аб нейкіх там «вантробах». У тыя часы халадзільная справа была пастаўленая значна горш, чым сёння, таму мяса не павінна было залежвацца. І калі яно губляла свежасць, яго падвяргалі тэрмаапрацоўцы, зніжалі кошт і прадавалі беднаце. Зараз так робяць мясныя кансервы, і, можна меркаваць, амаль увесь гэты масавы каўбасны асартымент. З таго мяса і «мясных вырабаў», якое губляе таварныя якасці ў крамах, таму што ў тэрмін не прадаецца з нагоды дарагавізны. А што тут казаць пра «ўмоўна прыгодную» сельгаспрадукцыю, якую атрымліваем мы пасля Чарнобыля? І ўсё гэта амаль па-за кантролем грамадскасці.

А ў тыя часы, як без усялякай істэрыкі паведамляла «Русское слово», насельніцтва з двух бакоў было зацікаўленае ў руплівасці ветэрынарнага нагляду: сярэднія класы, каб з бойняў у гандаль трапляла здаровае мяса (бо тады амаль усё куплялася кухаркамі ў свежым выглядзе. – **К. С.**); бедната – каб болей яго бракавалася і каб «фрейбанк» быў цалкам ім забяспечаны.

Артыкул Леніна «Дешевое мясо – для народа» хоць і быў змешчаны ў зборы твораў правадыра, але амаль не цытаваўся ў сістэме партпрапаганды. Прынамсі, таму, што намаляваны ім малюнак капіталістычнага пекла выглядаў нашмат прывабней здзейсненага сацыялістычнага раю.

Сёння аб гэтым карысна напомніць новым прапагандыстам, для якіх правадыры застаюцца жывейшымі за ўсіх жывых. Ды не толькі прапагандыстам, а і ўсім тым «кіраўнікам», дзякуючы якім народ гібее ў галечы. ■

ПРАЦЭС

# Птушка ў клетцы

## Што дало змаганне лётчыка з міністрам абароны за права быць вольным?

Алесь ПАЎЛОВІЧ

**Мінскі міжгарнізонны суд перагледзеў і адмяніў сваё ж рашэнне, якое раней абавязвала міністэрства абароны звольніць з войска лётчыка Паўла Ганчарыка па яго ным жаданні. Цяпер маёру Ганчарыку загадана служыць далей, пакуль не дасягне пенсійнага ўзросту. Лётчык лічыць, што апошняе рашэнне суд прыняў пад ціскам міністэрства абароны. «Майму прыкладу гатовыя наследаваць некалькі тысяч афіцэраў, якіх таксама не задавальняе заробак і перспектывы службы. Фактычна гэта ўжо не служба, а прыгоннае права», – кажа маёр Павел Ганчарык.**

НАША СВАБОДА ўжо пісала пра спробу лётчыка па сваім жаданні звольніцца з войска, дзе ён не бачыць для сябе ніякіх перспектываў. Нагадаем, што трыццацігадовы камандзір паветранага судна маёр Ганчарык падаў заяву не таму, што расчараваўся ў авіяцыі. Ён якраз спрабуе захавацца як лётчык.

Аднак ужо не першы год беларуская вайсковая авіяцыя фактычна на прыколе. «Пры налёце ў 20 гадзінаў у год мяне не тое што да камандавання, у самалёт нельга пускаць», – шчыра прызнаецца маёр. Ён хацеў звольніцца пакуль малады, пакуль канчаткова не згубіў кваліфікацыю і яшчэ мае шанцы палятаць у грамадзянскай авіяцыі.

Але ягоныя начальнікі такі шанец яму прадаставіць адмовіліся. Камандзір вайсковай часткі, да якога ён прарваўся на прыём, мог прапанаваць толькі звальненне «па службовай неадпаведнасці». Гэта значыць, трэба наўмысна нарабіць нейкіх парушэнняў, за якія афіцэра потым звольняць «з воўчым білетам». Але хто тады возьме яго на добрую цывільную працу?

Маёр Ганчарык выбраў іншы шлях – законны. Ён падаў у суд зыск, спаслаўся адразу на некалькі нарматыўных актаў. Па-першае, на закон аб статусе вайскоўца, які тады яшчэ прадугледжваў магчымасць звальнення па асабістым жаданні. Таксама на пастанову ўрада ад 1993 года, якой было загадана перавесці ўсіх афіцэраў на кантракт, але яна не была выкананая, і ў выніку большасць афіцэраў часоў Саюза служаць без кантракта, што парушае іх грамадзянскія правы.

Між тым Канстытуцыя Беларусі забараняе прымусовую працу. На першым працэсе па зыску Ганчарыка да міністра абароны ў студзені бягучага года суддзя Пётр Арлоў з аргументамі афіцэра пагадзіўся. Але міністэрства абароны не супакоілася і абскардзіла ягонае рашэнне ў вышэйшай інстанцыі, дабілася ў выніку новага разгляду ў тым жа міжгарнізонным судзе. Цяпер толькі справу разглядаў суддзя Сяргей Кандрацьеў, які і прыняў рашэнне на карысць міністэрства абароны.

Ці пагодзіцца з ім маёр Ганчарык? Не. Ён ужо заявіў, што таксама падасць касацыю. Можна было б пайсці іншым шляхам – некалькі разоў не прыйсці на працу ці дэманстратыўна напіцца. Толькі лётчык лічыць такі шлях хоць і самым кароткім, але непрыстойным гонару афіцэра беларускага войска, і збіраецца зноў судзіцца з міністрам абароны. ■

ПРАФСАЮЗЫ

# Первомай поделят власть и профсоюзы

Рыгор БУЯН

**Скоро 1 мая. Во всем мире – это Международный день солидарности трудящихся, а в Беларуси с некоторых пор – День труда. Накануне этой даты началось активное шевеление как в стане власти, так и среди профсоюзов: и те, и другие яростно борются за самый массовый электорат – рабочих.**

Власть, по установившейся традиции, идет напролом, вовсю используя давление и запугивание. В редакцию НАШАЙ СВАБОДЫ попал удивительный документ за подписью главы лукашенковской администрации Михаила Мясниковича, подтверждающий эти выводы. Это телефонограмма, которую – из-за ее «содержательности» – стоит привести без купюр.

«По инициативе Мингорисполкома и ряда профсоюзных организаций предприятий 27 апреля с.г. проводится встреча руководства города Минска с руководителями и профсоюзным активом предприятий.

Во встрече примут участие представители правительства и администрации президента Республики Беларусь.

С докладом «О ходе выполнения плана экономического и социального развития столицы» выступит председатель Минского горисполкома М.Я.-Павлов.

Предполагаются выступления директоров предприятий, профсоюзного актива.

Рекомендуем:

1.Инициативу руководства города Минска поддержать и провести накануне 1 мая подобные встречи.

2.Особое внимание в докладах руководителей организаций и предприятий уделить разъяснению положительных тенденций в развитии экономики, причин имеющихся проблем и способав их устранения.

В выступлениях профсоюзного актива акцентировать внимание на поддержку курса руководства страны, реализации решений президента РБ и правительства страны трудовыми коллективами, критике недостатков, особенно в работе выборных профсоюзных функционеров.

3. Данную акцию широко осветить в местных средствах массовой информации, показать новые лица в профсоюзном движении – будущих перспективных профсоюзных лидеров».

Как говорят, комментарии излишни – обо всем говорит эта бумага. Только вот что удивляет: какие же профсоюзы будут вместе с властями отмечать 1 мая? Ведь впервые за последние годы Федерация профсоюзов, объединяющая 36 отраслевых профсоюзов, единодушно отказалась выйти на улицы 1 мая под знаменами власти. «Демарш» профсоюзов НАШАЙ СВАБОДЗЕ комментирует председатель профсоюза автомобильного и сельскохозяйственного машиностроения (АСМ) **Александр Бухвостов**, претендующий на роль лидера оппозиционного крыла ФПБ.

— Большая часть лидеров нашего профсоюза, в том числе и я, считаем, что 1 мая – это Международный день солидарности трудящихся. Но очередным своим «произведением» Верховный Совет 12 созыва превратил эту дату в День труда. Мы вообще считаем, что никакого праздника наемного труда, тем более в Беларуси, не может быть в принципе. Поэтому мы давно считали и требовали, чтобы 1 мая профсоюзы отмечали отдельно от власти. Ведь эта власть поддерживает капитал, работодателей. И как же мы будем отмечать День труда с этой властью, которая давит рабочих, давит профсоюзы... Ведь Лукашенко в законе о профсоюзах не подписал один абзац, где говорится, что никто не имеет права вмешиваться в законную деятельность профсоюзов. Тем самым Лукашенко дал чиновникам карт-бланш, чтобы вмешиваться в эту самую законную деятельность профсоюзов. А ведь профсоюзы сейчас – как бы плохо о них ни отзывались, какие бы пасквили о них ни писали – это самые массовые организации, которые переживут все власти. Лукашенки приходят и уходят, а профсоюзы остаются...

В нынешнем году мы добились-таки, что руководство Федерации профсоюзов поддержало предложение нашего профсоюза, чтобы 1 мая не проводить вместе с городскими властями, а проводить так, как и во времена царизма (и тогда рабочий класс давили, давят его и при Лукашенко). Мы выводим людей на маевки, которые в какой-то степени будут носить и политический характер – мы будем говорить об отношении к власти и так далее. Кстати, маевки мы проводим уже третий год, и каждый раз они приобретают все более массовый характер. Но на маевки приходят ведь и единомышленники, и люди, которые хотят просто отдохнуть, – для всех мы должны создать условия. Мы стремимся как-то разнообразить отношения с людьми. Но профсоюзы должны сделать для людей и праздник – как-никак ведь это Международный день солидарности трудящихся...

Очевидно, что государственные профсоюзы не пойдут на конфронтацию с нынешним режимом: это и опасно, и невыгодно с финансовой точки зрения. В то же время обе стороны попытаются извлечь из 1 мая наибольшую выгоду каждая для себя. Крайним, как всегда, окажется объект такой «заботы» – рабочий класс. ■

## Клінтана дапыталі

Міхась КАРПОВІЧ

У мінулую пятніцу амерыканскаму прэзідэнту Білу Клінтану і віцэ-прэзідэнту Алберту Гору давялося даць паказанні агентам Федэральнага бюро расследаванняў.

Больш чым чатыры гадзіны гаспадару Белага Дома давялося распавядаць пра крыніцы фінансавання дэмакратычнай партыі ў 1996 годзе, падчас прэзідэнцкіх выбараў, паведамляе агенцтва *Reuters*. Дагэтуль Клінтан ужо двойчы даваў паказанні следчым – у 1997 і 1998 гадах. Дэмакратычную партыю падазраюць у незаконным прыцягненні сродкаў спонсараў падчас прэзідэнцкай кампаніі.

Як паведамляюць крыніцы ў Белым доме, і Біл Клінтан, і Эл Гор пагадзіліся дапамагаць следству і вырашылі добраахвотна даць паказанні. Расследаванне справы аб незаконным фінансаванні дэмакратычнай партыі доўжыцца ўжо некалькі гадоў. Дэмакратаў абвінавачваюць у атрыманні ад буйных карпарацыяў і замежных грамадзянаў 109 тысяч долараў – у парушэнне амерыканскіх законаў. Адмысловая працоўная група была сфарміраваная міністрам юстыцыі Джанет Рына ў 1997 годзе.

Ні амерыканскі прэзідэнт, ні віцэ-прэзідэнт не лічаць, што яны асабіста ўчынілі нейкія парушэнні правілаў збору сродкаў на сваю выбарчую кампанію. ■

## 150 чалавек затрымалі за ваду

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

У сталіцы Мексікі, Мехіка, паліцыя затрымала ў нядзелю 150 чалавек «за разбазарванне вады». У Мексіцы здаўна існуе традыцыя на Вялікдзень абліваць адзін аднаго вадой. Аднак у сталіцы, дзе жыве цяпер больш за 20 мільёнаў чалавек, з наступленнем спякоты стала не хапаць пітной вады. Апроч таго, цяперашняя вясна ў Мехіка суправаджаецца моцнай засухай, якой не было ўжо амаль паўстагоддзя. Большая частка тэрыторыі краіны абвешчаная зонай бедства.

Таму сёлета ўлады забаранілі выкарыстоўваць пітную ваду «не па прызначэнні» і папярэдзілі магчымых парушальнікаў, што супраць іх будуць прымяняцца штрафы і нават арышты. Аднак мексіканцаў гэтыя пагрозы не напалохалі. ■

## Студэнты дамовіліся

Ірына СТАРЦАВА

У Малдове лідэры студэнтаў, што выступілі на мінулым тыдні з пяцідзённай акцыяй пратэсту, дасягнулі папярэдніх дамоўленасцяў з урадам краіны аб перапыненні акцыі, паведамляе агенцтва «Росбизнесконсалтинг». Падчас перамоваў бакі падпісалі афіцыйны пратакол, у адпаведнасці з якім для студэнтаў адналыяецца бясплатны праезд у транспарце, у 1,5 раза падвышаецца стыпендыя, а ўлады абавязваюцца не пераследаваць арганізатараў акцыі. ■

## Украінскія танкі для Малайзіі

Міхась КАРПОВІЧ

Украіна разлічвае ў бліжэйшы час заключыць выгадны кантракт з Малайзіяй. Па словах дырэктара дзяржаўнага прадпрыемства «Прагрэс» Сяргея Самойленкі, размова ідзе пра пастаўку некалькіх дзесяткаў танкаў Т-84. Тэндэр на пастаўку пачаўся з прэзентацыі танка Т-84 на міжнароднай выставе ўзбраенняў «ДСА-2000», што адбылася нядаўна ў гэтай краіне. ■

## Меса Яна Паўла II

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

У сваёй велікоднай прамове ў нядзелю Папа Рымскі Ян Павел II павітаў хрысціянаў усяго свету на 61 мове. Ён заклікаў да абароны міру і правоў чалавека, а таксама да пазбаўлення свету ад праяўленняў расізму, беднасці і ксенафобіі. На плошчы Святога Пятра і вуліцах Ватыкана, што прылягаюць да яе, месу Яна Паўла II слухала больш за 100.000 чалавек. Апроч таго, яго слова трансляваліся па тэлебачанні на 60 краінаў свету.

Палічыўшы сваё велікоднае пасланне першым у новым тысячагоддзі, Папа Рымскі заклікаў кожнага чалавека, а таксама ўсе ўрады свету прызнаць чалавечае жыццё найвялікшай каштоўнасцю, а таксама стварыць справядлівыя і роўныя магчымасці для людзей ва ўсіх сферах жыцця грамадства. Ян Павел II памаліўся за «шчаслівае вырашэнне цяжкіх мірных перамоваў, якія мусяць спыніць канфлікты ў Афрыцы, Лацінскай Амерыцы, на Блізкім Усходзе, у Азіі і некаторых частках Еўропы». ■

## Германія запрашае праграмістаў

Міхась КАРПОВІЧ

Дагэтуль на ініцыятыву Германіі аб увядзенні аналагу гэтак званай *Green Card* («зялёнай карткі») для некаторых высакакласных спецыялістаў пакуль адгукнулася толькі каля 700 замежных праграмістаў.

Пра гэта паведаміла цэнтральнае аддзяленне германскай біржы працы. Сярод тых, каго зацікавіла прапанова нямецкіх уладаў, толькі некалькі індыйскіх спецыялістаў у галіне праграмавання. Гэты факт прадстаўляе вялікае расчараванне для немцаў – бо менавіта на прыезд індыйцаў ускладаліся асаблівыя спадзяванні.

На сённяшні дзень патрэба нямецкай прамыс[illegible] праграмістах ацэн[illegible] 75-300 тысяч чалавек. [illegible] вах дырэктара цэнтральна[illegible] аддзялення біржы працы Петэра Якабі, да іх з запытамі ўжо звярнуліся прадстаўнікі практычна ўсіх краінаў свету. Як сцвярджае П.Якабі, асноўны ўпор яны робяць на Паўднёвую Амерыку і Усходнюю Еўропу.

Тым не менш, падкрэсліў П.Якабі, «дзесяткі тысяч людзей з усяго свету ўяна не імкнуцца паехаць працаваць у Германію». «У большасці выпадкаў зацікаўленыя нямецкія прадпрыемствы самі запрашаюць вядомых ім асабіста спецыялістаў з-за мяжы», – лічыць дырэктар цэнтральнага аддзялення біржы працы. ■

СУСЕДЗІ

# Украіна–Расія: палітычны інцэст?

Кірэй МАНУЙЛАЎ

**Калі візіт новага расійскага прэзідэнта Уладзіміра Пуціна ў Вялікабрытанію можна назваць збольшага дыпламатычна паказальным і выгадна рэпрэзентацыйным, а ў Беларусь – фармальна-інтэграцыйным, то яго паездка на мінулым тыдні ва Украіну выглядае больш стратэгічнай і трохі менш абстрактнай па змесце.**



Між іншым, першапачаткова планавалася нават, што Пуцін наведае Кіеў раней, чым Мінск. Гэты візіт да Кучмы варта разглядаць у першую чаргу, зыходзячы з тых прагнозаў, што за новым прэзідэнтам расійская палітыка на постсавецкай прасторы стане больш прагматычнай, а то і агрэсіўнай (відаць, не пазбегнуць таго, нягледзячы на ўсталяваны Лукашэнкам асаблівы статус да Расіі, і беларусам). Украінска-расійскія дачыненні ў гэтым плане будуць і, па вялікім рахунку, амаль што ёсць самым выразным прыкладам.

Таму ў інтэрв'ю Бі-Бі-Сі ад 13 красавіка Кучма заявіў, што Украіна абсалютна гатовая да падобных варункаў: «Я на месцы Пуціна вёў бы такую ж палітыку. Больш жорсткую, больш прагматычную. І гэта – у інтарэсах Украіны і украінцаў. Як бы там ні было, але за тое, што бярэш, трэба плаціць. Сёння Расія практычна крэдытуе Украіну. Мы патрабуем газ, але не плацім. За першы квартал гэтага года сума складае каля 500 млн. долараў. Я яшчэ разумею, калі б гэты газ дайшоў да бюджэту, а ён жа прайшоў скрозь пальцы і патрапіў да камерцыйных структураў, а далей – у афшорныя зоны. Таму я як прэзідэнт зацікаўлены ў навядзенні жорсткага парадку, жорсткага падыходу да ўзаемаадносінаў з Расіяй з пункту гледжання эканомікі. Тавар – грошы – тавар. А мы ж прывыклі да іншага, а цяпер крычым, што ў Расіі будзе паіншаму. А што, у Расіі лепшая эканамічная сітуацыя? У ёй мала сваіх унутраных праблемаў?» Аднак пры ўсім тым Кучма сказаў, што чым болей Расія будзе ціснуць, тым далей Украіна мусіць аддаляцца да Захаду, маўляў, ужо цяпер «з кожным годам меншае тавараварот паміж Украінай і Расіяй. Калі не будзе эканамічнага інтарэсу, то не будзе і палітычнага. Таму я ў першую чаргу кажу, што расіяне павінны задумацца». Менавіта на тым, што Расію дужа турбуе магчымае пакіданне Украінай іхняй сферы ўплыву, хітрыя «хахлы» ўвесь час, як гаворыцца, і гуляюць, пры гэтым «доячы» і ўсходняга суседа, і Еўропу з ЗША.

Перамовы Кучмы і Пуціна ўяўлялі сабой гэткае зандзіраванне адным бокам другога на перспектыву настрояў і паводзінаў, рэакцыі на наўпрост не агучаныя, але даволі празрыстыя пагрозы ажыццяўлення пэўных захадаў. Галоўнымі традыцыйна сталі праблемныя тэмы энергарэсурсаў і Чарнаморскага флоту.

Што да паліўнай праблемы, то расійскі бок патрабуе ад украінцаў, па-першае, спыніць несанкцыяваны забор газу, а па-другое, разлічыцца па даўгах. Украінцы збіраюцца дамагчыся скасавання «няўстойкі» і зніжэння коштаў (зараз гэта 80 долараў за тысячу кубаметраў газу, а краінам Заходняй Еўропы «Газпром» прадае яго па 77,5, а нам – па 26,9). У якасці магчымых інструментаў ціску гаворыцца пра плату за нафта- і газаправоды, за магістральныя лініі, што праходзяць праз украінскую тэрыторыю, нават пра невыкананне Расіяй пагадненняў аб падзеле Алмазнага фонду і замежнай уласнасці колішняга СССР. Але найбольш дзейсным для пазбаўлення эканамічнай залежнасці, а як вынік, і палітычнай, з'яўляецца выкарыстанне крыніцаў энергіі не толькі з Расіі. Таму Масква ўжо 8 гадоў, калі быў зроблены адмысловы праект, праз эканамічна ўплывовыя сілы і «пятую калону» не дае пабудаваць адэскі нафтавы тэрмінал. А гэта 12 млн. тон нафты на год, што б задаволіла асноўныя паліўныя патрэбы Украіны, і звыш 1 млрд. грыўняў у бюджэт, з'яўленне некалькіх нафтаперапрацоўчых заводаў з тысячамі новых рабочых месцаў. Нарэшце, гэта рэальны спосаб запабегчы правакавання Расіяй энергетычных крызісаў і глабальная інтэграцыя ў еўрапейскую супольнасць: прыкаспійская нафта пайшла б праз Украіну ў Польшчу і далей у Еўропу. Ва ўкраінскага Кабінета міністраў ёсць спецыяльныя дамоўленасці з урадамі Грузіі, Азербайджана і Польшчы, гатовымі да фінансавання гэтага выгаднага праекта. Правая ўкраінская апазіцыя выступае за тое, каб тэрмінал пад Адэсай быў пабудаваны як мага хутчэй, пакуль не з'явіліся іншыя газа- і нафтаправоды ў абход тэрыторыі краіны.

Тая сітуацыя, што ў «гарачым» пытанні Украіна ў даўгах, як у шаўках, можа быць шантажным чынам выкарыстаная Пуціным і ў праблеме Чарнаморскага флоту. Пасля Чачні вельмі ўжо верагодна, што пуцінская фраза, што «усе міжнародныя абавязальніцтвы Расія прывядзе ў адпаведнасць з канцэпцыяй нацыянальнай бяспекі і з канцэпцыяй будаўніцтва ўзброеных сілаў», – гэта пра чарговыя мілітарысцкія намеры. У прыватнасці, пашырыць і актывізаваць расійскую вайсковую прысутнасць у Крыме.

4 сакавіка да «Асноваў палітыкі РФ у галіне ваенна-марской дзейнасці» Пуцін выдаў указ аб зацвярджэнні новай марской палітыкі на будучае дзесяцігоддзе. Паводле гэтых дакументаў, Расія будзе дабівацца большай свабоды дзейнасці на Чорным моры, доступу да яго прастораў і рэсурсаў як гарантыяў дзяржаўнай бяспекі. У прыватнасці, у рэгіёне дыслакацыі Ваенна-марскога флоту будзе аказвацца дадатковая падтрымка развіццю інфраструктуры базіравання, суднабудавання і суднарамонту, усіх відаў забеспячэння сістэмы ваенна-марскіх базаў, якая гістарычна склалася ў Расіі.

У Чарнаморскім флоце Расіі ад Пуціна чакаюць шмат чаго: на прэзідэнцкіх выбарах за яго прагаласавала амаль 90% асабовага складу. Тут апошнія месяцы, асабліва напярэдадні прыезду расійскага прэзідэнта ў Кіеў і Севастопаль, усё галасней гавораць пра занадта цеснае партнёрства Украіны і NATO, пра пралангацыю дваццацігадовай арэнды севастопальскіх бухтаў, пра пажаданасць даць двайное грамадзянства тым афіцэрам, якія захочуць пасля службы ў ЧФ застацца жыць у Крыме, выказваюць незадавальненне, што, выходзячы ў мора, трэба папярэджваць украінскі бок, і гэтак далей.

Цалкам мажліва, што бліжэйшым часам штосьці з гэтых пунктаў, як і ў справе з энергарэсурснай запазычанасцю, перамоўшчыца ў змест афіцыйных і жорсткіх заяваў і «разборак» паміж Масквой і Кіевам. А пакуль што на мінулатыднёвай сустрэчы Кучма гаварыў пра «глыбокае задавальненне» тым, што бакі быццам бы паразумеліся, як вырашаць гэтыя праблемы ў будучым, а Пуцін – пра блізкасць народаў, прычым, ажно да «кровосмешения». Відаць, забыўся на негатыўныя наступствы інцэсту. ■

## Нізкая якасць расійскага абсталявання

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

Учора адзін расійскі і шэсць амерыканскіх касманаўтаў мусілі адправіцца на Міжнародную касмічную станцыю. Як сцвярджае газета *The Washington Post*, увесь экіпаж місіі захапіць з сабой вырабленыя на замову берушы – такія, як у рок-музыкаў, а таксама персанальныя маніторы стану паветра і сістэмы вентыляцыі на станцыі. Уся справа ў тым, пішa паважанае амерыканскае выданне, што якасць установленых на станцыі акустычнай і вентыляцыйнай сістэмаў вельмі нізкая. Абедзве гэтыя сістэмы былі вырабленыя ў Расіі.

Амерыканскія астранаўты не мусілі адпраўляцца на станцыю да таго часу, пакуль туды не будзе накіраваны расійскі модуль «Зорка» з сістэмамі падтрымання жыцця. Тым не менш, запуск модуля, запланаваны на ліпень 2000 года, не задавальняў амерыканскі бок па тэрмінах, і яны вырашылі накіраваць усю групу ў гэты панядзелак, каб на месцы выправіць дэфект, які прыводзіць да зніжэння арбіты станцыі на амаль 3,5 км кожныя два тыдні. Пра гэта паведаміў камандзір карабля Джэймс Холсэл-малодшы. ■



## Паленне выклікае імпатэнцыю

Міхась КАРПОВІЧ

Камісія Еўрасаюза прыняла рашэнне: на пакунках цыгарэтаў мусіць быць папераджальны надпіс аб тым, што паленне можа выклікаць імпатэнцыю.

Нядаўна ў Вялікабрытаніі было праведзенае апытанне, якое паказала: пра негатыўны ўплыў цыгарэтаў на патэнцыю здагадваюцца толькі 12% курцоў. Вядома, што калі б такое апытанне праводзілася ў Беларусі, то гэты паказчык быў бы яшчэ меншым. У лепшым выпадку самыя «адукаваныя» адказалі б, што паленне цягне рак лёгкіх і бранхіт. Пра тое, што яно яшчэ можа выклікаць сардэчна-сасудзістыя захворванні і імпатэнцыю, амаль ніхто не ведае.

Паленне спрыяе ўтварэнню атэрасклератычных бляшак, што звужаюць сасуды. Для імпатэнцыі дастаткова нават невялічкага звужэння, таму яна можа пачацца задоўга да інфаркту або інсульту. Навукоўцы сцвярджаюць, што 30–40-гадовыя аматары папаліць маюць на 50% больш шанцаў атрымаць імпатэнцыю.

Для вытворцаў цыгарэтаў гэтае рашэнне Еўрасаюза стала вельмі непрыемнай навіной – бо вядома, што мужчыны куды больш апасаюцца аказацца няздольнымі ў ложку, чым захварэць на рак. ■

АДУКАЦЫЯ

# Вопросы без ответов

Евгений ВЕЖНОВЕЦ, Константин СКУРАТОВИЧ

**11 марта в Витебске покончила с собой учитель начальных классов. Ей было 47 лет. У нее никогда не было семьи, никогда не было квартиры. Жила в общежитии. Имела даже не комнату — «койко-место». Перед смертью рассчиталась с долгами, сдала книги в библиотеку, нанесла последние визиты, пришла домой, выпила уксусную эсенцию, вскрыла вены и умерла.**

Эта смерть породила в городе массу слухов. О мотивах и способах самоубийства, о том, что это убийство, оформленное как самоубийство. Как всегда образовались группировки, вокруг факта и имени несчастной закрутились интересы и претензии. Кто-то пробует использовать происшествие, чтобы утвердиться, кто-то этому препятствует.

Но следует говорить не о конкретной учительнице, которая за все сполна заплатила. Надо говорить о тенденции. О том, что в прошлом году в Витебской области добровольно покончили с собой 670 человек. И вообще, за последние годы число самоубийств выросло в несколько раз. Потому что страна на самом деле деградирует по всем направлениям. Власти бодрятся и обещают рай в будущем. Ссылаются на трудности, которые мешают.



А что им, властям, остается делать. За февраль средняя зарплата «трудящихся» лежала в пределах сорока тысяч. Примерно столько же в среднем заработали и учителя. Но к конкретному учителю это относится, как средняя температура по больнице к отдельно взятому пациенту.

Например, у начинающего после вуза учителя оклад составляет 12.780 расчетных билетов Нацбанка РБ, или 15 так называемых у. е. по рыночному курсу.

Учитель со стажем в 20 лет зарабатывает больше. Но для этого он «берет» столько часов, сколько дают. Как правило полторы-две ставки, плюс тетради, классное руководство, стимулирующие (за дополнительные занятия после уроков) репетиторство, подработки и т.д. Не спрашивайте, о каком качестве обучения может идти речь.

А жить когда? Во всеобщей суете все как-то забыли, что учитель тоже человек, как правило, женщина. Ей надо одеться, обуться, выглядеть по-человечески. А семья, дом, муж. А если не сложилось? И куда пойти, с кем общаться, если не за что?

Но и это не все. Сегодня школы становятся серьезным политическим институтом государства. С очень определенными задачами. Выполнить эти задачи можно только в условиях жесточайшей дисциплины. По принципу «Я начальник — ты дурак». Поэтому, несмотря на катастрофическую нехватку кадров, с неугодными расправляются по всем правилам, выработанным в советское время.

А ко всему, в погоне за показателями роста успеваемости, учителей просто заставляют завышать оценки. При любых обстоятельствах. Вот и ставят. А потом «некоторые» удивляются, что медалисты на вступительных экзаменах не знают элементарных вещей. Для повышения «эффективности управления» администрации предоставлены три премиальные и один материальной помощи фонды. У «хороших» подчас эти выплаты намного превышают зарплату.

Вот и подписываются приказы, выдержку из которого мы цитируем: *«Учителя-предметники, выставившие неудовлетворительные отметки, будут заслушаны в каникулярное время с отчетами о проделанной работе, по предупреждению неуспеваемости на совете РОО (с собой иметь планы индивидуальной работы с неуспевающими и другими доказательствами вашей работы по предупреждению неуспеваемости)»*. Для тех, кто еще не забыл советский «новояз», не надо объяснять, что сие означает.

Известно, что в стране, по разным данным, 7-10 % детей отличаются замедленным развитием. По данным опроса, проводимым министерством образования, в Витебске 12,6 % старшеклассников уже пробовали наркотики (наверное, в министерстве не знают, что таких называют эпизодическими наркоманами), но при этом 99 % ежегодно получают аттестаты зрелости.

Право же, это замечательный повод послушать какого-нибудь лектора на тему профессиональной этики или же подискутировать про то, что есть ребенок – факел, который надо зажечь, или сосуд, который надо наполнить. А еще больше хочется всем сказать одно известное «волшебное» слово. Но не все могут это слово сказать.

Такие не выдерживают. В советское время про них говорили «сгорел на работе», и в газетах о них не писали.

...На похоронах было много людей. Дети плакали. Она отдавала им все. Они ее любили. Они еще не знают о целесообразности, которой руководствуются взрослые дяди. И о том, что в нашей стране стратегической отраслью является сельское хозяйство. А когда им говорят «надо», спрашивают: « А зачем?»

А в самом деле, зачем? ■

# У нашего государства короткая память на свои обязанности

Наталья РАДИНА

**Авария на Чернобыльской АЭС случилась 26 апреля. Два дня власти держали это в секрете от людей, надеясь, что никто не узнает и все обойдется. Но чрезвычайные масштабы катастрофы и опасность ядерного взрыва принудили правительство СССР принять экстренные меры. Задачу «обеззаразить» 30-километровую зону, обезопасить станцию выполняли в общей сложности 800 тысяч ликвидаторов со всего Советского Союза. Над разрушенным энергоблоком они возвели саркофаг. Работая, они не знали степени облучения, которому подвергались на протяжении нескольких месяцев.**

В 1986 году большинству из ликвидаторов было 25-35 лет. Речь идет о молодых людях с хорошим здоровьем, что подтверждается их больничными карточками дочернобыльского времени. В ликвидации последствий участвовало много добровольцев, но большинство составили люди, которых послали выполнять работу вблизи аварийного реактора.

Вспоминает Валентин Р., военнослужащий, ликвидатор аварии на ЧАЭС:

*«В воскресенье 27 апреля в 8 утра ко мне домой прибежал солдат срочной службы и сообщил о «тревоге». Надо было срочно бежать в часть. От нашего вертолетного полка в воздух подняли три вертолета МИ-6. Никто из нас не знал, куда летим, не говоря уже о том, зачем. Только в воздухе командир экипажа поставил задачу – летим на Украину. Мы приземлились около Чернигова. Вскоре сюда слетелись экипажи не только из белорусских подразделений, но украинские и российские.*

*Сутки мы не знали, для чего в такой спешке летели на Украину. К концу вторых суток наш экипаж получил приказ лететь на Чернобыль. Только тогда нам сказали, что в Чернобыле взорвался четвертый реактор.*

*В 5 часов вечера 28 апреля мы прибыли на осмотр чернобыльского реактора. Все были в растерянности. Горящее, в черном дыму здание реактора – никто не знал, что с ним делать. Тогда казалось, что это работа для пожарных, но при чем здесь мы, летчики?*

*Уже на следующий день, мы поняли, что тушением пожара не обойдется. Мы обосновались в трех километрах от Чернобыля, куда нам подвозили свинец для тушения пожара на реакторе. Каждый вертолет поднимал в воздух по 2–3 тонны свинца и сбрасывал его на 4-й энергоблок. Так мы работали с 6 утра и до темноты...»*

Сергей М., полковник, ликвидатор:

*«Мне сказали, что солдаты в день должны получать не более двух рентген облучения. Оказалось, что, в соответствии с указаниями, два рентгена в день рассматривались как допустимая доза радиации. Доза эта, якобы, была установлена после клинического эксперимента. Где, кем и какого — неизвестно».*





Валентин Р.:

*«Нам сказали, что максимально допустимая доза радиационного облучения – 25 рентген, и уверили, что за 5 дней и 25 вылетов на Чернобыльскую АЭС мы набрали не больше, но все наши дозиметры были старые, постоянно барахлили. Поэтому никто не знает, сколько радиации мы набрали?»*

Многие набрали «радиации» так много, что врачи, обследовавшие ликвидаторов, засвидетельствовали такие наблюдения:

*«Когда мы под микроскопом исследовали биопсии, взятые у ликвидаторов, мы увидели большие черные пятна. Обнаружились радиоактивные частицы, а именно частицы плутония. Мы стали искать в литературе, что это может означать, и единственные исследования, которые мы нашли, оказались немецкими отчетами об экспериментах с воздействием плутония на кроликов. Здесь же речь шла о ликвидаторах, о живых людях».*

Солдаты-ликвидаторы каждый день подвергались значительному облучению в целях некоего эксперимента, а не в зависимости от работы, которую следовало выполнить. Многократно у них брали кровь из вены, не давая при этом никаких объяснений.

Сергей М.:

*«После того, как солдаты побывали в зоне, им были сделаны анализы крови для специальных биохимических исследований. Они получили приказ пройти клинические тесты. Я не знаю, как выглядел протокол этих тестов».*

Статьи специальной Хельсинкской конвенции требуют информированного согласия людей в случае проведения экспериментов, связанных с их здоровьем. Но не было ни информации, ни согласия в каком-либо виде, ни какого-либо сообщения результатов всем ликвидаторам.

Необходимо подчеркнуть, что среди этих людей были не только кадровые военнослужащие, которые вроде бы обязаны по долгу службы лететь в «горячие» точки, но были и призванные из запаса граждане.

Сергей М.:

*«Я потребовал подкрепления полка ликвидаторов, которым руководил. Мне прислали рекрутов».* (То есть молодых солдат.)

Большинство из них полагали, что не так страшно работать возле электростанции.

Валентин Р.:

*«Работать мы должны были в респираторах, но было так жарко, что никто в них не работал. Все постоянно чувствовали тошноту, слабость, головокружение... Меры защиты ограничивались тем, что мы меняли каждый день спецодежду и тщательно мылись... Да и чего, казалось, беспокоиться, если за 2-3 километра от ЧАЭС люди сажали картошку...»*

Хотя власти официально заявляли, что ликвидаторы не подвергались сильным дозам радиации, а малые дозы радиации, мол, даже полезны для здоровья, до 1991 года все данные о заболеваемости среди ликвидаторов были секретными. Больных посылали в специальные больницы. Заключительным диагнозом была «нейровегетативная дистония». Этот диагноз был размытый, мог включать множество разных нарушений.

Закрытой даже сегодня является и информация о смертности среди ликвидаторов. Власти никогда не хотели признавать связь между болезнями и радиоактивным облучением. Скорее всего этим объясняется постоянное ограничение ликвидаторов в льготах.

Но в соответствии с информацией, предоставленной российским обществом «Чернобыль», спустя 10 лет после аварии из 300 тысяч российских ликвидаторов более 32 тысяч потеряли трудоспособность (средний возраст от 35 до 45 лет), более 8 тысяч человек умерли. Среди ликвидаторов увеличивается количество заболеваний щитовидной железы, включая рак. Уровень заболеваний эндокринной системы у них в 10 раз выше среднего, нарушений со стороны головного мозга – в 5 раз, болезней системы пищеварения и кровообращения – в 3-4 раза больше обычного.

Валентин Р.:

*«В прошлом году от рака желудка умер полковник, прилетевший в Чернобыль вместе с нами со своими ребятами из новополоцкого полка. Умерли двое наших ребят: один — от лейкемии, другой — от инсульта. Молодые мужики, чуть за сорок обоим перевалило. Это те, кто был у меня на виду. Про остальных не знаю...»*

Попытки объявить о том, что проблемы Чернобыля уже позади, что идет восстановительный период и нет нужды в усиленных мерах по защите жизни и здоровья людей, пострадавших от аварии на ЧАЭС, не просто лживы, они — чрезвычайно опасны. Здоровых людей в Беларуси практически нет, все рожденное поколение «обожжено» Чернобылем. Но правительственные программы предусматривают возвращение в хозяйственный оборот зараженных земель. Это ли не возврат к циничной политике обмана, которым окружала Чернобыльскую катастрофу советская власть? Но и сама жертва, белорусский народ, не пытается активно защитить свое здоровье и свои права. Можно, конечно, жить и в «стране строгого режима», но этот режим приказывает терпеть нетерпимое – болезни людей, сокращение продолжительности жизни, плохое питание и перспективу все более ослабленных поколений. Печальный опыт ликвидаторов, забытых государством, стоит трезвого осмысления. ■

АРЫЕНЦІР

# Кожнаму беларусу – сотавы тэлефон?

Берта БАСОЎСКАЯ

**Усё больш беларусаў набывае сабе тэлефонныя апараты лічбавай сотавай сувязі GSM. На сённяшні дзень лічбавая сувязь дзейнічае на тэрыторыі, дзе жыве 50% насельніцтва нашай краіны.**

Паводле дадзеных спецыялістаў міністэрства сувязі, пакуль што тэлефонамі стандарта GSM карыстаецца 11,5 тысяч жыхароў Беларусі ў Мінску, Магілёве, Гомелі, Брэсце, Гродне і іншых буйных гарадах. Але ўжо ў верасні гэтага года гэтая сувязь будзе распаўсюджаная па ўсіх мястэчках у раёне трасы «Мінск – Брэст» ажно да расійскай мяжы. Далей пачнецца трыумфальнае шэсце GSM па раённых цэнтрах.

Цікава, што такі ўзровень папулярнасці і распаўсюджання лічбавая сувязь змагла набыць толькі за адзін год існавання ў Беларусі. Яе першы юбілей быў адзначаны 16 красавіка гэтага года ў офісе СП «Мабільная лічбавая сувязь» — адзінага на тэрыторыі Беларусі аператара гэтага віду сувязі.

Адказныя чыноўнікі міністэрства сувязі сцвярджаюць, што сетка сувязі стандарта GSM у Беларусі «будуецца з разлікам на шырокія слаі насельніцтва». Па іх словах, зніжэнне абаненцкай платы і тарыфаў было адным з абавязацельстваў кампаніі пры атрыманні ліцэнзіі.

Пакуль жа, як паведамілі нам прадстаўнікі адной з дылерскіх кантораў СП «Мабільная лічбавая сувязь», каб займець тэлефон стандарта GSM, трэба заплаціць больш за 500 долараў ЗША. Зразумела, далёка не кожны можа сабе дазволіць такую раскошу. Тэлефонныя перамовы па «мабільніку» таксама каштуюць нятанна. Для параўнання: кошт адной хвіліны размовы па звычайным тэлефоне ў межах горада каштуе 1 рубель, а размова па тэлефоне GSM – 280 рублёў. Такім чынам, ідэя пра масавую «GSM-тэлефанізацыю» кожнага беларуса яшчэ надоўга застанецца ружовай марай. Як мінімум, да таго часу, пакуль у «Мабільнай лічбавай сувязі» не з'явяцца магутныя канкурэнты, якія прымусяць сённяшняга манапаліста збавіць цэны. ■

# Наш бело-красно-белый триколор

Вероника ЧЕРКАСОВА

**Беларусь напоминает аномальную зону: с одной стороны, если посмотреть на карту, то именно на ее территории располагается центр Европы, с другой – очень многие иностранные граждане искренне удивляются, узнав, что между Польшей и Россией лежит целая страна. Но она есть, причем, со всеми атрибутами: историей, флагом, гербом, президентством и оппозицией. Более того, все вышеперечисленное обладает неповторимым национальным колоритом. Так, иностранцы не перестают удивляться тому, что в нашей стране одновременно можно увидеть два национальных флага. Те же, кто задержится в Беларуси подольше, очень скоро понимают, что под красно-зеленым выступает официальная власть, под бело-красно-белым – оппозиция.**

Сочетание бело-красного цветов сложилось на нашей земле много веков назад. Так, одна из самых характерных деталей отделки белорусского национального костюма, возникшего несколько тысячелетий назад, – вышитый красным орнамент на отбеленном холсте. С появлением первых памятников письменности возникли и описания бело-красно-белых хоругвий. Еще один аргумент в пользу того, что этот флаг – исторический символ нашего народа, можно увидеть на картине «Битва под Оршей», написанной в 1515 году современником сражения. Рыцарские стяжки, под которыми войска Великого княжества громили московские полки, представляют собой бело-красно-белый триколор.

Национальный флаг – один из способов самоидентификации нации. Кусок ткани с тем или иным изображением по сути является условностью. Но эта условность, будучи признанной многомиллионным народом, становится элементом его консолидации, символом, вокруг которого формируется нация. Народно-освободительные восстания, которые безжалостно топились в крови царским российским режимом, проходили под бело-красно-белым флагом. С ним народ шел на смерть за право называться белорусами, а не «жителями Северо-западного края», как именовали их в российских официальных документах.

В 1918 году была провозглашена Белорусская Народная Республика, которая ставила своей целью обретение независимости от России и создание белорусского государства. Своими символами новая республика провозгласила бело-красно-белый флаг и исторический герб «Погоню». Однако, широкой международной поддержки эта идея не получила, и Беларусь в конце концов стала одной из республик Советского Союза. Поскольку одной из целей БНР была провозглашена борьба с большевизмом и российским шовинизмом как исконными врагами белорусского народа, то БНР, а с нею бело-красно-белый флаг и герб «Погоня» в новейшей белорусской истории стали олицетворением реакционного прошлого.




Советская символика Беларуси



Символика РБ, предложенная А.Лукашенко



Национальная символика белорусского народа

Во время Великой Отечественной войны вместе с немцами в Беларусь вернулись бывшие национальные деятели, а с ними – флаг и «Погоня». Это позволило впоследствии на государственном уровне клеймить позором национальную символику. Выборочная историческая память позволяла при этом забыть, что армия генерала Власова воевала под триколором. И не помешало ему впоследствии стать государственным флагом России, а в сентябре 1939 года, уже после того, как немцы захватили Польшу, не где-нибудь, а в Брестской крепости состоялся официальный парад немецких и советских войск, на котором красные знамена с серпом и молотом несли бок о бок с немецкими, со свастикой.

До 1951 года над всем пространством СССР реял одинаковый красный флаг. Лишь в 1951 году Сталин принял решение ввести в республиках национальные флаги. Это должно было быть прямоугольное полотнище, 2/3 которого займет верхняя полоса красного цвета, на национальную специфику оставлялась лишь 1/3 ширины флага. Только Бог и создававший флаг художник Волков (кстати, во время войны сотрудничавший с немцами) знают, почему славянской Беларуси для самоидентификации достался классический цвет ислама. Однако, даже в этой конъюнктурной символике остался элемент традиционного национального символа: вертикально, вдоль древка идет народный орнамент (но почему-то белого цвета на красном поле). Гербы советских республик в то время рисовали тоже по единому образцу с легкими элементами национальной специфики. Лучи восходящего солнца ласкали серп и молот, которые с обеих сторон были окружены венком из ржаных колосьев. Колосья же, в свою очередь, были обвиты красной лентой с надписью на белорусском и русском языках «Пролетарии всех стран, соединяйтесь!» Так вот, в белорусском гербе в первоначальном варианте эта лента была не красной, а бело-красно-белой. И что самое удивительное, местное партийное начальство этот проект одобрило, однако, когда герб принимали на самом высоком уровне в Москве, в целях унификации идея была отвергнута: для всех 15 республик лента должна была быть одного, конечно же, красного цвета.

В конце восьмидесятых перестройка принесла всплеск национального самосознания. Идея обретения независимости и суверенитета овладела умами и выплеснулась на улицу в виде митингов, шествий, демонстраций. Над многотысячными скоплениями людей, скандировавших «Жыве Беларусь!», снова реял неизменный атрибут возрождения национального самосознания: бело-красно-белый флаг. Именно под ним Беларусь пришла к своей независимости и обрела суверенитет. Победившая оппозиция потребовала, чтобы национальный флаг официально стал государственным символом Беларуси. Торжественно внести его в Овальный зал Дома правительства, где принимаются главные государственные решения, доверили рослому депутату от оппозиции. Гордо подняв голову и сверкая глазами, Александр Лукашенко внес бело-красно-белый флаг в главный зал страны. Чудные дела твои, Господи!

Спустя три года Лукашенко станет президентом страны и будет присягать в верности своему народу на фоне бело-красно-белого флага. А еще через год по итогам референдума 1995 года он потребует вернуть на место старую символику. В народе ново-старый возрожденный коммунистический символ мгновенно нарекли «Рассвет над болотом».

Оставлять мятежный символ, под которым народ выступает за свою независимость, было для Лукашенко опасно. На этот раз он лично в замене государственной символики не участвовал. На крышу Дома правительства полезла группа во главе с управляющим делами президента Иваном Титенковым. Национальный символ был разорван в клочья, на которых присутствующие хохоча тупо ставили свои автографы. Потом их продавали из-под полы за приличные суммы.

Пять лет присутствия бело-красно-белого флага в качестве национального символа не могли не оставить своего следа. И не только духовного, но и вполне материального: в паспортах, выданных гражданам страны в этот период, на официальных документах, в иной полиграфической и видеопродукции, в интерьере станции метро «Первомайская», на номерных знаках автомобилей.

Заменить в приказном порядке декретом старую национальную символику на новую невозможно. То, что сложилось веками, все равно будет прорастать в народе изнутри, как упрямо тянутся к солнцу колосья ржи на давно забытом поле. И сражаться за свободу и независимость идут под флагом, за который умирали предки, ибо он – как намоленная икона, веками впитавшая в себя надежду и любовь народа. ■

ПАМЯЦЬ

## Катынь – дзяржаўнае злачынства

Андрэй ВЯРЫГА

**У нашай гісторыі на красавік прыпадаюць сумныя падзеі. У 1986 годзе на краіну абрушылася Чарнобыльская катастрофа. А 60 гадоў таму, напачатку красавіка, каля вёскі Катынь на Смаленшчыне сталінскія карнікі з НКУС расстралялі каля 5 тысяч салдатаў і афіцэраў польскага войска, захопленых у палон падчас ваенных дзеянняў восені 1939 года.**

Болей за паўстагоддзя савецкія і расійскія ўлады не прызнаваліся ў гэтым злачынстве, ускладаючы віну за злачынства на эсэсаўцаў. Нарэшце Ельцын вырашыў за лепшае прызнаць афіцыйна тое, што было вядомае ўсяму свету. У Катыні ахвярам генацыду пастаўлены памятныя крыж, а радок пра Катынь напісаны на слупах каля Магілы Невядомага Салдата ў Варшаве.

Сярод расстраляных у Катыні вайскоўцаў было шмат нашых землякоў – ураджэнцаў Заходняй Беларусі, мабілізаваных у польскую армію напярэдадні і з пачаткам Другой сусветнай вайны. Зразумела, што польскі бок трактуе



іх як палякаў. Зразумела таксама, што гэткай жа трактоўкі трымаецца расійскі бок, абыходзячы такім чынам беларускую прысутнасць у брацкіх магілах Катыні. А наш сёняшні ўрад, прыхільны ідэі стварэння Саюза (адраджэння СССР), наогул не цікавіцца катынскімі расстрэламі, памяць пра катынскія ахвяры ў нас на афіцыйным узроўні не існуе. Нічога дзіўнага ў гэтым няма, бо ў нас нават Курапаты намагаліся спісаць на СС, а цяпер і выканаўчая ўлада, і дзве палаты заканатворцаў на іх забыліся. Не трэба тлумачыць, што людзі, якіх лёс паставіў пад ружжо ў войска польскае, калі Гітлер і Сталін пачалі таямніча падрыхтаваны і ўзгоднены падзел Еўропы, і якія супрацьстаялі гэтай агрэсіі, лічыліся ворагамі пры бальшавіках і адпаведна не лічацца ахвярамі пры іхных ідэйных пераемніках.

Аднак расійскі бок дзеля паляпшэння адносінаў з Польшчай вырашыў паставіць кропку на балючых для польскага грамадства таямніцах берыяўскіх расстрэлаў у Катыні. 13 красавіка новаабраны прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін затэлефанаваў прэзідэнту Польшчы Аляксандру Квасьнеўскаму. Пуцін паведаміў Квасьнеўскаму пра адкрыццё невядомых раней месцаў масавых забойстваў польскіх салдатаў і афіцэраў у 1939–1941 гадах і запрасіў палякаў да ўдзелу ў расследаванні, якое будзе праводзіць расійская пракуратура. Гісторыкі Польшчы прымуць удзел у працы спецыяльнай камісіі.

Усяго сталінскімі карнікамі былі расстраляныя болей за 21.800 палонных. Колькі ў гэтым ліку дакладна жыхароў з былой Заходняй Беларусі – ніхто не лічыў. Было б годна для нас, калі б нашы гісторыкі даведаліся пра гэта і аддалі б належную памяць пакутнікам. Ясная рэч, што папрасіць месца ў складзе ўзгаданай расійскай камісіі мусіць наш урад, а ў дадзеным выпадку, пасля тэлефоннай размовы Пуціна і Квасьнеўскага, толькі А.Лукашэнка. Падчас свайго візіту ў Мінск прэзідэнт Пуцін з кіраўніком Беларусі пра Катынь не размаўляў. Яны абмяркоўвалі іншае пытанне, датычнае смаленскіх зямель, – размяшчэння тут, на расійска-беларускім памежжы, 300-тысячнай групоўкі войскаў з мэтай абароны ад пагрозы ўдару з Захаду. Катынскія брацкія магілкі 1940 года сведчаць, аднак, пра іншы накірунак магчымай пагрозы. ■

ПОШТА



***Уважаемая редакция газеты!***

К Вам обращается группа пенсионеров, принимавших участие в «Марше Свободы».

30 тысяч человек, принявших участие в «Марше Свободы», своим присутствием уже поставили свои подписи против создания единого государства, так как другой возможности высказать свое отношение к созданию «единого государства» у нас нет. Мы желаем видеть нашу любимую Беларусь суверенным государством, как Украина, Литва, Латвия, Эстония, Казахстан и т.д. Живя в суверенном государстве, мы не делимся на русских и белорусов, а живем как единый народ. Мы любим Россию и россиян и желаем жить в дружбе и согласии, но только в разных суверенных государствах. Не нужно загонять нас снова в империю. Свой суверенитет мы никогда и никому не позволим отнять. Создание единого государства нужно в Беларуси только одному человеку – Лукашенко, который за пять лет своего правления наделал столько, что ему нужно уйти от ответственности. Мы также все знаем, что подпись Лукашенко на союзном договоре не будет иметь юридической силы, так как он после 20 июля 1999 года является нелегитимным президентом. Но мы не должны допустить того, чтобы потом пришлось отстаивать свою независимость, как это делали Прибалтийские республики, когда доказывали, что договор, подписанный Молотовым и Риббентропом, недействителен.

Можно слышать иногда разговоры, что без России мы будем сидеть без света и тепла. Достаточно вспомнить зиму 1998 года, когда два региона России (Приморский край и Камчатка) всю зиму были без тепла и света. Обогревались керогазами и кострами на улице. Не так ли будет у нас, когда мы станем регионом России? Наши сыновья и внуки воинскую службу снова будут проходить на территории России и станут разменной монетой в горячих точках России.

Со времен первобытнообщинного строя лидер, стоящий во главе племени, а в цивилизованном мире – глава государства, должен быть образцом для подражания, а что у нас? Бывший глава государства сделал все, чтобы Беларусь стала всеобщим посмешищем и мир узнал Беларусь только с плохой стороны, не говоря уже об экономической изоляции.

Неужели среди окружения нелегитимного президента нет ни одного человека, который разъяснил бы Лукашенко, что в его выступлениях присутствует блатной или зековский жаргон (дермократы, вшивые блохи, жулье, шмотье и отребье, жулики из МВФ и т.д.) Своими выступлениями Лукашенко в первую очередь унижает себя.

**Пенсионеры**
**Ж.В.ШИМКЕВИЧ,**
**Н.И.БЕЛЯВСКАЯ,**
**Г.Б.БОРИСЕВИЧ**

КНІГАРНЯ

## «Arche». Думка і злачынствы

Алесь ШМЯЛЁЎ

**Выйшаў у свет шосты, а ў гэтым годзе першы, нумар часопіса «Arche». Асноўная тэма нумара — «Панславізм: думка і злачынствы».**




Адкрываецца часопіс апытаннем пра перспектывы славянскай ідэі ў Еўропе, якое правялі журналісты сярод дванаццаці вядомых грамадскіх дзеячаў, і не толькі беларускіх. Сярод іх палітолаг Збігнеў Бжэзінскі, пісьменніца Святлана Алексіевіч ды іншыя. Сярод іншых матэрыялаў — артыкулы серба Вука Драшкавіча, чэха Яна Патачкі, даследаванне Яўгена Новікава, прысвечанае Югаславіі часоў Іосіфа Броз Ціта.

У раздзеле прыгожага пісьменства выдзяляюцца турэмныя дзённікі Славаміра Адамовіча (разам з турэмным слоўнікам), апавяданне «Выкраданне вепрука» Ігара Сідарука.

На мой погляд, гэты нумар «Arche» перагружаны геапалітычнымі даследаваннямі і «лёгкіх» рэчаў, чытаючы якія галава магла б не напружвацца, а адпачываць, – яўны дэфіцыт. Як заўсёды прыгожы і малазразумелы (можа толькі для мяне?) верш прадставіў паэт Андрэй Хадановіч.

Але ўвогуле часопіс адпавядае той канцэпцыі, якую жадаюць прывіць яму стваральнікі, – інтэлектуальна-тэматычнае чытво для эліты. І думаецца, нягледзячы на дастаткова вялікі кошт, шосты нумар, як і папярэднія пяць, таксама пяройдзе ў разрад «не дастаць». ■

## Спыненае імгненне

Таццяна МАТУСЕВІЧ




На працягу некалькіх дзесяцігоддзяў мастак Вячка Целеш збіраў калекцыю старадаўніх паштовак з відамі беларускіх гарадоў. Сам Целеш родам з мястэчка Рось непадалёку ад Ваўкавыска, але лёс даўно закінуў яго ў Рыгу, дзе цяпер ён ачольвае Беларускае таварыства. Вячка Целеш добра вядомы сярод нашых краязнаўцаў, бо шмат рупіўся пра прапаганду і захаванне беларускай мінуўшчыны. Паважанай, ды як у нас часцяком здараецца, не надта ацэненай яго справай стала выданне альбома «Гарады Беларусі на старых паштоўках». Гэты ёмісты альбом выдадзены на выдатнай паперы, мае густоўнае афармленне, і па ўсіх пазычках і элементах прызначаны для падарункаў. Паштоўкі, з якімі знаёміць альбом, сапраўды старыя – зробленыя фотаматарамі і фотамастакамі 100 - 80 гадоў таму. З гэтай прычыны яны віды. Здымкі пачатку 20-га стагоддзя зафіксавалі і тагачасную моду, і тагачасны транспарт, і кірмашы, і, што найбольш цікава, – людзей у нейкае выпадковае імгненне штодзённага жыцця. Параўнанне іх з відамі сённяшніх нашых гарадоў і мястэчак дазваляе дакладна ацаніць і нашыя страты, і нашыя здабыткі, і хоць крыху падумаць над няўмольным ходам жыцця.




ўсе, бясспрэчна, унікальныя і непаўторныя. Іх у альбоме болей за паўтысячы. Нават не верыцца, што на пачатку стагоддзя справа з фотапаштоўкамі была пастаўленая лепш, чым сёння. Ці можна сёння паслаць, прыкладам, з Ваўкавыска, Талачына ці Шчучына віншавальную паштоўку з відамі гэтых гарадкоў сваім сябрам? Няма там мясцовай вытворчасці такой «прадукцыі», а раней мелася. Апроч названых, альбом змяшчае паштоўкі з відамі Смаргоні, Вілейкі, Дзісны, Жлобіна, Лепеля, Рэчыцы, Крычава, Кобрына, Асіповічаў, Глуска, Горак, Паставаў, Свіслачы і яшчэ двух дзесяткаў гарадоў, не лічачы абласных цэнтраў.

Варта дадаць, што альбом атрымаўся шматракурсны. Тут не толькі гарадскія архітэктурныя

Альбом «Гарады Беларусі» – акно ў рэальнасць мінулага. Такое падарожжа заслугоўвае цікаўнасці. Аднак кніга, якая патрэбная ў школьных бібліятэках, на хатніх кніжных паліцах, прыдатная для падарунка замежным гасцям нашай краіны (усе тэксты маюць паралельны пераклад на англійскую мову), застаецца малавядомая.

Ужо адно, што, гартаючы старонкі кнігі, можна пабачыць менавіта тое, што бачылі нашыя бабулі, дзяды і прадзеды, надае кнізе незвычайную якасць і мусіць прывабіць кожнага, хто мае схільнасць да сентыменту. А ў гэтых адносінах усе надзеленыя слабасцю лічыць «залатым часам» мінулае, бо там ніякім чынам нам рэальна ніколі не пабываць. ■

# Выход из панибратского капитализма

Иван МИКЛОШ,
заместитель премьер-министра Словакии по экономическим вопросам

**Переходный период в моей стране, Словакии, да и по всей Центральной и Восточной Европе, превратился в более сложный, многосторонний и долгий процесс, чем ожидалось изначально. Основная проблема лежит в том, что наследие коммунизма оказалось гораздо большим бременем, чем могли себе представить большинство людей, включая экспертов, и это наследие в основном находится в головах людей, а не в экономической структуре.**



Однако на недавней конференции в Москве заместитель управляющего директора МВФ Станли Фишер по-прежнему подчеркивал важность Вашингтонского консенсуса, т.е. макроэкономической стабилизации, основанной на либерализации цен и торговли, конвертируемости валюты, жестких бюджетных и денежных программах и быстрой приватизации, для успеха реформы. Этот консенсус остается важным, но он недостаточен для успеха. Создание эффективных институтов обладает не меньшей важностью.

Потому что и ограниченная демократия, и панибратский капитализм процветают там, где институционная структура неразвита или коррумпирована. У обоих – одни и те же отравленные корни, поэтому неудивительно, что они шагают рука об руку. Чем выше степень ограниченности демократии, тем выше уровень коррупции, моральной деградации, оппортунизма; чем в большей степени коррумпирована экономика, тем более ограничена демократия.

Под ограниченной демократией я подразумеваю систему, в которой правительства хотя и избираются на свободных (но не всегда справедливых) выборах, они (правительства) не способны уважать основные принципы и ценности конституционного либерализма, включая власть закона, разделение власти, независимую юридическую власть, уважение и защиту прав и свобод человека.

Панибратский капитализм может быть понят как система, которая — хотя и основана на некоторых рыночных отношениях и частной собственности — не способна уважать такие важные правила, как сила закона, свободная и честная конкуренция, равенство возможностей, защита собственности, прозрачность и общественный контроль. Панибратский капитализм — это система, которая позволяет править такому феномену, как скрытые связи между политической и экономической властью, коррупцией и растратами. Когда он наступает, справедливость политического процесса усыхает.

Может ли этот зловещий круг, который является не просто теоретической угрозой, но печальной реальностью во многих странах, быть разрушен? Первым шагом должно стать определение его основных причин, которые, по моему мнению, лежат в общественных ценностях и моделях поведения, его так называемые неформальные правила. Эти правила, в отличие от законов, не нуждаются в укреплении, поскольку, в принципе, в каждой демократии, включая ограниченную, политики делают только то, что люди позволяют им делать.

Однако в посткоммунистических демократиях эти неформальные общественные ценности и принципы воспринимаются весьма туманно, если вообще воспринимаются большинством населения. В развитых странах такие ценности взращивались десятилетиями функционирования конституционного либерализма, включая, как заметил автор Фарид Закария, режимы, которые можно назвать «либеральными автократиями», подобные Австро-венгерской империи.

В этом отношении историческое наследие Центральной Европы является очень запутанным. Народ территории, которая сейчас является Словакией, видел семь различных государств и жил под пятью разными политическими системами 20 века — от либеральной автократии Австро-венгерской империи (1901-1918), через либеральную демократию Чехословацкой Республики (1918-1939) и фашистский военный период Словацкого государства (1939-1945), потом вновь через Чехословацкую либеральную демократию (1945-1948), затем – коммунистическую Чехословацкую Социалистическую Республику (1948-1989) и либеральную демократию Чехословацкой Федеративной Республики (1989-1992). Со времен «бархатного развода», который разделил Словакию и Чешскую Республику, здесь были либеральные демократические периоды и период ограниченной демократии режима Владимира Мечиара (1994 - 1998).

Модели обозримого прошлого неизбежно влияют на настоящее. Исследуя модели голосования населения в отдельных регионах Словакии в 1918-1939 гг. и 1990-1998 г.г., словацкий социолог Владимир Кривый обнаружил, что муниципалитеты и регионы, которые склонялись к либеральным партиям в межвоенный период, проявляют эти же наклонности в 1989-1998 гг. периода восстановления свободы. В других муниципалитетах и регионах большинство продолжает поддерживать авторитарные партии и отказывается от классических либеральных принципов и при либеральном режиме, и при ограниченной демократии.

Можно ли разрушить круг ограниченной демократии и панибратского капитализма? Словакия представляет позитивный пример подобного перелома. Выборы 1998 года, приведшие к поражению режим Владимира Мечиара, ясно показали, что прорыв возможен. Шесть факторов сыграли ключевую роль: смена поколений; улучшенное образование; доступность информации; объединенная оппозиция, защищающая классические либеральные ценности; рост влияния гражданского общества.

Многие из этих факторов выросли из открытой оппозиции правлению Мечиара. Я уверен в том, что именно эти факторы необходимы для успеха настоящей либеральной демократии и современной рыночной экономики даже в таких странах, как Россия, Украина, Беларусь и Балканские государства. Развитые страны и международные институты должны сфокусировать свое внимание и поддержку на укрепление этих факторов. ■

P.S.

СУВЯЗЬ ЧАСОЎ



● Мінск. Помнік Аляксандру II на Саборнай плошчы (цяпер плошча Свабоды). 1900 год




● Мінск. Тое ж самае месца на плошчы Свабоды пад помнік вольнае. 2000 год

Галоўны рэдактар
Павел ЖУК

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец — рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1768 Нумар падпісаны ў друк 24/04/2000 (15:00) Наклад — 7.340